# Ніва

## БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК




№ 50 (668) ГОД XIII 15 СНЕЖНЯ 1968 г. ЦАНА 60 гр.


# БГКТ

## Пастановы VI ПЛЕНУМА ГП БГКТ

**1. ГП БГКТ шчыра вітае пастановы V з'езда ПАРП і абавязваецца ўнесці максімум намаганняў у іх ажыццяўленне.**

**2. Члены ГП БГКТ абавязваюцца правесці найменш па адным сходзе гурткоў БГКТ і пазнаёміць членаў з пастановамі V з'езда ПАРП, звяртаючы асаблівую ўвагу на выхаванне моладзі.**

**3. Ад студзеня 1969 года ўключыцца ў ажыццяўленне планаў працы аддзелаў адносна святкавання 50-годдзя БССР (дапамагчы ў арганізаванні вечарын, акадэмій, выставак, дакладаў, правядзенні папулярна-навуковай сесіі і іншых культурна-асветных мерапрыемстваў).**

**4. Зрабіць намаганні ў навязанні шырэйшых кантактаў з БССР.**

**5. У рамках Фронту адзінства народа ўключыцца ў справаздачна-выбарчую кампанію ў рады нарадовыя і Сейм шляхам абслугоўвання сустрэч з кандыдатамі мастацкай часткай, папулярызацыі кандыдатаў, выбарчай праграмы і інш.**

**6. Быць ініцыятарамі адзначэння 25-годдзя ПНР у сваім асяроддзі (даклады, папулярызацыя людзей, якія загінулі за народную ўладу, фестыны, акадэміі, прысвечаныя дасягненням за гады народнай улады).**

**7. Аказаць дапамогу аддзелам БГКТ у правядзенні справаздачна-выбарчай кампаніі БГКТ:**

**а) закончыць выбары ў гуртках да канца сакавіка 1969 г.,**

**б) закончыць выбары ў аддзелах да канца красавіка 1969 г.,**

**в) правесці з'езд БГКТ у маі 1969 г.**

**8. Звярнуць большую ўвагу на пашырэнне асветнай дзейнасці, між іншым, на арганізацыю праблемных курсаў.**

**9. Літаратурна-мастацкае аб'яднанне «Белавежа» павінна зрабіць намаганні ў напрамку забеспячэння мастацкага руху патрэбным рэпертуарам.**

**10. Арганізаваць пашыранае пасяджэнне прэзідыума ГП БГКТ ў справе беларускага школьніцтва.**




**Яшчэ зусім свежыя ўражанні з вялікіх дзён у жыцці нашай партыі і народа — V з'езда ПАРП, а ўжо хвалююць нас новыя важныя даты. 20 год таму, 15 снежня 1948 года адбыўся Кангрэс аб'яднання ППР і ППС, у выніку чаго ўзнікла Польская аб'яднаная рабочая партыя. Паўстагоддзя таму, 16 снежня 1918 года была створана папярэдніца ПАРП — Камуністычная партыя Польшчы.**

**Слаўны шлях пройдзены польскімі камуністамі, неабвяргальныя здабыткі Народнай Польшчы, якая пад кіраўніцтвам Партыі ўпэўнена ідзе ў сацыялістычную будучыню, у гэтыя дні хвалююць нас асабліва. Радуючыся дасягненнямі краіны, якая за кароткі гістарычны перыяд грунтоўна змяніла свой воблік, мы яшчэ і яшчэ раз пераконваемся ў стваральнай сіле таго магутнага згуртавання аднадумцаў, імя якога — Партыя.**

**Уверсе плакат польскага мастака В. Закшэўскага п.з. «Партыя».**

# VI ПЛЕНУМ ГП БГКТ

1 снежня г.г. адбылося VI пленарнае пасяджэнне Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства. Прысвечана яно было пастановам з'езда Польскай аб'яднанай рабочай партыі. Адкрыў і вёў пленум старшыня ГП БГКТ Вінцук Склубоўскі. Пасля адкрыцця пасяджэння была выслана прывітальная тэлеграма з'езду Літоўскага грамадска-культурнага таварыства, які ў гэты дзень праходзіў у Сейнах.

Затым з дакладам выступіў сакратар ГП БГКТ Уладзімір Юзвюк. Ва ўступе звярнуў ён увагу на вялікае значэнне V з'езда ў жыцці краіны. Перадз'ездаўская дыскусія над тэзісамі ЦК ПАРП, — гаварыў дакладчык, — ахапіла ўсю грамадскасць краіны. Тэзісы не толькі выклікалі агульнапартыйную і агульнанародную дыскусію, але дапамаглі правільна ацаніць пройдзены шлях сацыялістычнага будаўніцтва, памаглі скансалідаваць членаў партыі і беспартыйных вакол партыі і яе Цэнтральнага Камітэта. Для нас, беларусаў, — працягвае сакратар ГП БГКТ, — мае гэта асабліва вялікае значэнне. Менавіта сацыялістычныя пераўтварэнні ўпершыню стварылі нам магчымасць грамадскага авансу, аднолькавага эканамічнага і культурнага росквіту зямель паўднёвага ўсходу Беласточчыны, на якіх пражывае ў асноўным беларускае насельніцтва. Гэта насельніцтва ў складаныя дні сакавіка выказала палітычную спеласць, прывязанасць да партыі і ўрада ПНР. Разам з усімі працоўнымі нашага ваяводства імкнемся да далейшага развіцця яго эканомікі і культуры, хочам яго авансу ў краіне. Цешымся з кожнага дасягнення. І заўсёды з'яўляемся аптымістамі, бо бачым аграмадныя змены. Асабліва прыкмет-

(Працяг на стар. 3)

## 20-ГОДДЗЕ АБ'ЯДНАННЯ

**15** снежня 1948 года. Гэтая дата залатымі літарамі запісалася ў пасляваенную гісторыю нашай краіны. У гэты дзень здзейснілася аб'яднанне польскага рабочага руху. Дзве рабочыя партыі — Польская рабочая партыя і Польская сацыялістычная партыя — вырашылі спалучыцца ў адну — Польскую аб'яднаную рабочую партыю, якая вось ужо 20 год паспяхова кіруе гаспадарчым і палітычным жыццём нашага народа. Аб'яднальны кангрэс адбыўся ў Варшаве, у велізарнай актавай зале Варшаўскай палітэхнікі.

Адным са сведкаў і ўдзельнікаў гэтай гістарычнай падзеі была Марыя Кантышава — дэлегатка рабочых «чырвонай» Гайнаўкі. Жыве яна зараз у пасёлку Орля.

Працавала яна тады на гайнаўскім тартаку. Была ўдарніцай і грамадскім дзеячам. У Гайнаўцы заснавала гурток Лігі жанчын. Была членам ОРМО. Рабочыя Гайнаўкі добра яе ведалі яшчэ з даваенных рэвалюцыйных змаганняў. Мужа таксама. Камуніста Рыгора Кантышава ў ліпені 1941 года замучылі гітлераўцы.

— Сядзела я ў вялікай зале Палітэхнікі, — успамінае Марыя Кантышава, — побач, як рукой падаць, сядзелі дзяржаўныя дзеячы нашай краіны, якіх я ведала толькі з партрэтаў. Абмяркоўвалі трохгадовы план пасляваеннай адбудовы і разбудовы нашай краіны, гаварылі пра будучыню дэмакратычнай, народнай Польшчы, вызначалі перспектывы яе развіцця. Сядзела я, трымала ў руках мандат дэлегата З'езда і мне не верылася, што гэта, між іншым, і мне даверана вырашаць будучыню свайго народа, што мой голас тут важны, што ён лічыцца. Я ж — дачка графскага батрака з маёнтка Ружанка пад Владавай. Дзесяцігадовай дзяўчынкай засталася сіратой без бацькі і маці. Я і трохгадовы мой брат. Граф выгнаў нас з хаты, якую

# ДЭЛЕГАТКА ГАЙНАЎСКІХ РАБОЧЫХ

пабудаваў наш пакойны бацька. Па панскіх хлявах, па лесе мы бадзяліся. Пасля брат трапіў у нейкі сірацінец, а мною заняліся чужыя людзі. І калі так успамінала я сваё жыццё, падумала пра свайго пакойнага мужа. Ён меў вышэйшую адукацыю, аднак не мог знайсці працы ў даваеннай Польшчы, бо не хацеў перахрысціцца на католіка і адказацца ад камуністычнай дзейнасці. Працаваў звычайным сталяром. А больш, чым працаваў, сядзеў па турмах. Вось у красавіку 1930 года. Працавалі мы тады разам з мужам на тартаку ў Белавежскай пушчы. Пасля першамайскай дэманстрацыі мужа забралі ў турму. Я таксама атрымала воўчы білет. Было тады ў мяне двое дзяцей, а трэцяе... ў дарозе. Ад бяды і голаду не данасіла я яго... Дырэкцыя тартака гнала мяне, як паршывую сабаку, нават рабочым забаранялі са мной гаварыць. Ні аднекуль ані граша. Гатова была ўжо нават прыбіральні чысціць, каб зарабіць некалькі залатовак на хлеб для дзяцей. Класавы прафсаюз мне дапамог. Уладзілі на працу. Хаця тры дні ў тыдзень працавала. А іншым разам... У маі 1933 года. Тады жылі мы ўжо ў Гайнаўцы. На гайнаўскім тартаку выбухнула забастоўка ў абарону звольненых з працы і за павышэнне заработкаў. Мужа зноў арыштавалі. Я тады была ўжо членам прагрэсіўнай арганізацыі Таварыства рабочых універсітэтаў і кандыдатам у члены ППС — Левая. У забастоўцы прымала актыўны ўдзел. І за гэта дасталося мне 8 месяцаў турмы. Выратавала мяне ад яе амністыя, якую аб'явіў урад з нагоды нараджэння сына ў прэзідэнта Масціцкага...

Муж мне часта паўтараў: «Калі мяне не стане, дык ты мяне заступіш».

І сапраўды, маё месца на зале Аб'яднальнага Кангрэса і мой мандат ад гайнаўскіх рабочых прыналежаў яму. Я яго там заступала. І думала, што не дарэмна мы змагаліся за ўладу працоўнага люду. І прыемна было, што

(Працяг на стар. 3)

# Падзеі ◊ Здарэнні ◊ Факты ◊ Каментарыі ◊ Весткі



## СВЕТ

### ЦІ СТАНЕ РЭЧАІСНАСЦЮ?

Свайго часу стала вельмі папулярнай, а нават захапляючай, згода Савецкага Саюза на двухбаковыя перагаворы між СССР і ЗША. Памятаем, што ЗША пасля т. зв. «чэхаславацкай справы» пастанавілі адчакаць з гэтымі справамі. Але на гэта, як паказваюць апошнія інфармацыі, Злучаным Штатам трэба было не больш трох месяцаў. Як перадаюць прэсавыя агенцтвы ўжо ў лістападзе ўрад ЗША паведаміў пасла СССР, што ён зацікаўлены ў перагаворах з СССР. Гэтыя ж агенцтвы інфармуюць, што Вашынгтон зараз чакае адказу ўрада СССР у справе двухбаковых перагавораў на найвышэйшай урадавай ступені. Апрача гэтага роду інфармацыі цяжка нешта больш сказаць.

Адно вядома, што галоўнай тэмай двухбаковых перагавораў перад т.зв. «чэхаславацкай справай», павінна было быць не пабольшванне ўзбраення, а перш за ўсё планаваная Злучанымі Штатамі супрацьракетная абарона, т.зв. АБМ. Кошт гэтага ўзбраення падлічаны на 40 мільярдаў долараў.

Зразумела, калі б дайшло да двухбаковай сустрэчы, не маглі б быць прамінуты справы В'етнама і Блізкага Усходу.

### БЛІЗКІ УСХОД

Кожны дзень мінулага тыдня прыносіў звесткі аб усё новых кроках агрэсіі Ізраіля супраць арабскіх краін. Не закончыў сваёй медыяцыйнай місіі пасол Ярынг. Міністр замежных спраў ААР Рыяд заявіў, што адзінай падставай да ўрэгулявання ізраільска-арабскага канфлікту можа быць выкананне пастановы Рады Бяспекі.

Нягледзячы на вельмі напружаную сітуацыю на Блізкім Усходзе, сцвярджае адна з савецкіх газет, ёсць магчымасць мірнага ўрэгулявання канфлікту, калі Ізраіль ўстрымае акты агрэсіі.

### ЧАТЫРОХБАКОВЫЯ ПЕРАГАВОРЫ

Калі чытачы атрымаюць гэты нумар, праўдападобна, у Парыжы ўжо пачнуцца чатырохбаковыя перагаворы ў справе В'етнама. За сталом засядуць, як паўнапраўныя, прадстаўнікі ДРВ, Фронта нацыянальнага вызвалення Паўднёвага В'етнама (партызан), ЗША і сайгонскага марыянеткавага ўрада.

У сувязі з гэтым у Парыж прыехала аж 80-асабовая дэлегацыя ўрада сайгонскіх марыянетак. А памятаем, што не так даўно Сайгон абсалютна адмаўляўся ад такіх перагавораў. Гэтым напсаваў шмат нерваў некаторым амерыканскім палітыкам. Адзін з амерыканскіх палітыкаў у сувязі з гэтым быццам бы сказаў: «Ад якога гэта часу хвост круціць сабакам».

Гэта добра, што перагаворы пачаліся. Ёсць агульная думка ўсіх назіральнікаў, што працягнуцца яны доўга і то з розных прычын. Адно добра (адважуся прадбачыць), што не будзе насільвацца эскалацыя вайны ў В'етнаме. А ўсяму свету відаць, што барацьба в'етнамскага народа прыносіць і прынясе перамогу. Каб хутчэй!

**А. Кар.**



## БССР

### 50-ГОДДЗЮ

Некалькі соцень дакументаў, газет, фатаграфій, кніжак экспануецца на выстаўцы, адкрытай у бібліятэцы імя Горкага. Яна прысвечана 50-годдзю Беларускай ССР і Кампартыі Беларусі.

У раздзеле выстаўкі **«Ленін і Беларусь»** экспануюцца тэлеграмы, запіскі Леніна, адрасаваныя ў Оршу, Рудню, Жлобін, Дрысу па розных пытаннях жыцця і абароны маладой беларускай дзяржавы.

### «МАЛАДНЯК»

У беларускіх літаратараў вялікае свята: сорак пяць гадоў таму назад была заснавана вядомая літаратурная арганізацыя «Маладняк». Заснаванне «Маладняка» з'явілася выдатнай падзеяй у беларускай культуры наогул.

Непасрэднымі заснавальнікамі гэтай першай літаратурнай арганізацыі ў Савецкай Беларусі з'яўляліся такія выдатныя паэты, як Чарот, Пушча, Вольскі, Александровіч, Дудар, Бабарэка. Да ліку колішніх маладнякоўцаў належаць такія выдатныя празвішчы сучаснай беларускай літаратуры, як Крапіва, Скрыган, Лынькоў, Глебка, Якімовіч, Гурскі, Вітка, Сабаленка, Шушкевіч, Пальчэўскі, Хадкевіч, Гаўрук.

Жыццяздольнасць «Маладняка» была незвычайнай: на працягу ўжо першых год сваёй дзейнасці гэта арганізацыя налічвала больш трохсот чалавек — таленавітай беларускай моладзі.

### МІНІСТРАМ

У рубрыцы **«Пошту «Звязды» чытае міністр сувязі БССР»** цэнтральная беларуская газета змясціла размову з міністрам П. Афанасьевым, які адказаў на пытанні чытачоў гэтай газеты. З размовы даведваемся м. ін., што зараз на Беларусі налічваецца каля двухсот тысяч тэлефонаў. Адбываецца паступовая замена старых апаратаў на апараты навейшай канструкцыі.

Да праблем і заўваг, якія былі разгледжаны ў гэтай размове, газета вернецца праз некалькі месяцаў, каб здаць чытачам справаздачу з рэалізацыі іх.

### МАНЮШКІ

У былым фальварку Убель, на Беларусі, дзе нарадзіўся і вырас вялікі кампазітар Станіслаў Манюшка, устаноўлена мемарыяльная дошка. Вучні мясцовай школы вырашылі стварыць музей кампазітара, сабраны багаты матэрыял: кніжкі, фотаздымкі, фотадакументы.

### ЧАРНЯЎСКУЮ

**«Душою з родным краем»** — пад такім загалоўкам вядомы беларускі пісьменнік Станіслаў Шушкевіч піша на старонках «Літаратуры і Мастацтва» пра Леанілу Чарняўскую — жонку Максіма Гарэцкага, выдатнага дзеяча беларускай культуры. Яна з'яўляецца аўтарам шматлікіх твораў для дзяцей і моладзі, а таксама перакладаў на беларускую мову твораў выдатных еўрапейскіх пісьменнікаў. Зараз яе галоўны клопат — збіранне і ўпарадкаванне літаратурнай спадчыны Гарэцкага.

**(С.Я.)**



## ПОЛЬШЧА

### БАРБУРКА

Цэнтральная ўрачыстасць традыцыйнага Дня шахцёра — Барбуркі адбылася ў гэтым годзе ў Забжы. Прыняў у ёй удзел I сакратар Цэнтральнага Камітэта партыі Уладзіслаў Гамулка, які выступіў на ўрачыстасці з прамовай. Падзякаваў ён ад імя Цэнтральнага Камітэта польскім шахцёрам за іх ахвярную працу, выкананне прадукцыйных заданняў і ўласцівую грамадзянскую паставу. Затым прамоўца сцвердзіў, што наглядаецца ў нашай краіне пастаянны ўзрост выдабыцця вугалю, якое ў гэтым годзе павялічыцца яшчэ на 4,5 працэнта. Гаворачы аб адмоўных баках вугальнай прамысловасці, Уладзіслаў Гамулка звярнуў увагу на затармажэнне ў апошнім часе ўзросту прадукцыйнасці працы. У далейшай частцы свайго выступлення прамоўца ўказаў на дынамічнае развіццё новых галін нашага шахцёрства: выдабыцця серы, медзі і цынкава-свінцовых рудаў.

### У 1969 ГОДЗЕ

4 снежня адбылося ў Варшаве пасяджэнне Сеймавай Камісіі гаспадарчага плана, бюджэта і фінансаў. На пасяджэнні Старшыня камісіі гаспадарчага планавання пры Радзе Міністраў Стэфан Ендрыхоўскі зачытаў даклад на тэму: «Аб галоўных напрамках праекта Нацыянальнага гаспадарчага плана на 1969 год». Гаворачы аб рэалізацыі планаваных на 1968 год заданняў, С. Ендрыхоўскі сцвердзіў, што асноўныя з іх будуць выкананыя, і нават перавыкананыя. Фактарам, прыспешваючым рэалізацыю шматлікіх прадукцыйных заданняў, сталі абавязацельствы ў гонар V з'езда партыі. Прадбачыцца, што валавая прадукцыя прамысловасці ўзрасце ў параўнанні з 1967 годам на 8,9 працэнта, а прадукцыя сельскай гаспадаркі — на 1,8 працэнта. Ураджай збожжавых культур дасягнуў у сярэднім 21 цэнтнера з гектара — найвышэйшы ў дагэтуляшняй гісторыі нашай сельскай гаспадаркі.

Гаворачы аб гаспадарчым плане на 1969 год, прамоўца ўказаў на неабходнасць зраўнаважэння балансу ў заграгічным гандлі, што азначае неабходнасць павелічэння экспарту (вывазу) тавараў пры адначасовым абмежаванні імпартных патрабаванняў нашых прадпрыемстваў. Плануецца значнае паляпшэнне забеспячэння ўнутранага рынку, а ў асаблівасці лепшае прыстасаванне прапанавання да патрэб. Прадугледжваецца, што колькасць рабочых узрасце на 304 тыс. асоб, прадукцыйнасць працы — на 4,9 працэнта, а сродкі на інвестыцыі — на 8,8 працэнта. Плануецца, што нацыянальны даход у 1969 годзе ўзрасце прыблізна на 5 працэнтаў, а валавая прадукцыя сельскай гаспадаркі — на 1,7 працэнта.

### ПЕНСІІ

У студзені 1969 года пачнецца другі этап рэалізацыі рэформы сістэмы пенсій, пачатай ў гэтым годзе. Пенсіянеры атрымаюць першую выплату пабольшаную другой ратай падвышкі. У суме, пасля другога этапу, падвышка ў сярэднім дасягне 175 злотых у месяц. (п)



## ВАЯВОДСТВА

### НАРАДА

4 снежня г.г. адбылася ў Беластоку нарада сакратароў павятовых камітэтаў партыі і партыйнага актыву. Нарадай кіраваў I сакратар Ваяводскага камітэта ПАРП у Беластоку тав. А. Лашэвіч. Удзельнікі нарады абмеркавалі актуальныя заданні для партыйных арганізацый Беластоцкага ваяводства. З прамовамі выступілі сакратары Аляксандр Младзяноўскі і Вітальд Мікульскі.

### РЭКОРДНЫЯ ЎРАДЖАІ

Станцыі выпрактыкаванняў розных сартоў пасяўнога збожжа, якія існуюць на тэрыторыі Беластоцкага ваяводства, у апошнія гады на сваіх доследных палетках дабіліся ўраджаю жыта («хробрае» і «данькоўскае залатое») звыш 40 цэнтнераў з аднаго гектара. Пшаніца «данькоўская паўночная» дала 41,5 цэнт. з га., а пшаніца «эрос» — 40,8 цэнт. з га. Спецыялісты па сельскай гаспадарцы сцвярджаюць, што гэтыя рэкордныя ўраджаі незадоўга стануць зусім нармальнымі ў сельскай гаспадарцы. Як прыклад падаюць адзін ПГР з Гданьскага ваяводства (на Жулавах), які ў гэтым годзе дабіўся ўраджаю 70 цэнт. з га.

### АЛЕНІ ПАД НАГЛЯДАМ

Надляснічы з Валіл у Беластоцкім павеце — Лехаслаў Сульвінскі вядзе навуковы нагляд за аленямі, якія жывуць у лясах між Валіламі і Супраслем. Даследваннямі надляснічага апякуецца Кафедра паляўнічай гаспадаркі Познаньскай вышэйшай сельскагаспадарчай школы. Гэтым чынам намагаюцца яны ўстанавіць метады буйнейшага размножвання аленяў.

### СМЕРЦЬ НА ДАРОГАХ

На працягу 10-ці месяцаў 1968 года на дарогах і на вуліцах гарадоў Беластоцкага ваяводства здарылася 453 няшчасныя выпадкі. У выніку гэтага звыш 70 асоб было забітых і 424 параненых. Знішчана амаль 300 аўтамашын і матацыклаў. У параўнанні да мінулага года колькасць забітых павялічылася на 9 чалавек.

### ФАБРЫКА Ў ЛЯЎКОВЕ

Аб пабудове ў Новым Ляўкове на Гайнаўшчыне прадпрыемства, якое будзе прадукаваць цэглу і меліярацыйныя дрэны, пісалі мы ўжо некалькі год таму назад. З прыемнасцю цяпер паведамляем нашых чытачоў, што керамічная фабрыка ў Ляўкове распачынае ўжо прадукцыю. Гэта высоказмеханізаванае прадпрыемства, у якім цяжкую працу выконваюць машыны. Пакуль што рабочы калектыў Ляўкоўскай фабрыкі налічвае 120 чалавек. Для рабочых будуюцца зараз жылыя дамы. Аб здароўі іх будзе клапаціцца завадскі лекар.

### ЁЛКІ

Штогод, калі набліжаюцца Каляды, Беласточчына дастаўляе іншым раёнам краіны святочныя ёлкі. У гэтым годзе з нашых лясоў, перш за ўсё ў сталіцу, паедзе амаль 135 тысяч ёлак. 50 тысяч гэтых дрэвак атрымае ад нас Люблін. (вр)




**Niedziela, 15.XII.**

8.30 Program dnia. 8.35 TV Kurs Rolniczy — pytania i odpowiedzi. 9.10 „Przypominamy, radzimy”. 9.20 PKF. 9.30 „W imieniu Rzeczypospolitej” Film TVP („Stawka większa niż życie”). 10.30 Sprawozdanie sportowe. 13.30 Dziennik. 13.40 „PROM”. 14.30 Krakowski Teatr Baśni. A. Kozak: „Wioślarskie straszydło”. 15.30 „Przemiany”. 16.00 „Warszawskie skrzydła” („Polacy na frontach II Wojny Światowej”). 16.15 „Piórkiem i węglem” 16.35 „W górę Wisły” („Ludzie i zdarzenia”). 16.55 „Najwcześniejsze komedie Flipa i Flapa” — film. 17.50 „Klub sześciu kontynentów”. 18.30 „Przeleciało ćwierć wieku”. 19.20 „Dobranoc”. 19.30 Dziennik. 20.05 „Witaj smutku” — film fab. USA. 21.35 „Niedziela Sportowa”. 21.55 „Ewa i dzieci” — film („Ewa”).

**Poniedziałek, 16.XII.**

15.35 Program dnia. 15.40 i 22.25 Politechnika TV, Kurs przygotowawczy. 16.45 Dziennik. 16.55 Dla dzieci: „Kino Ptyś”. 17.10 Dla młodych widzów: „Zrób to sam”. 17.40 „Na zdrowie”. 18.00 „Dom Wielkiego Pisarza” — film radz. lok. 18.15 „Kino Krótkich Filmów”. 18.45 „Eureka”. 19.20 „Dobranoc”. 19.30 Dziennik. 20.05 Teatr TV. A. Czechow — „Spóźnione kwiaty”. ok. 21.35 „Profile kultury”. 22.05 Dziennik.

**Wtorek, 16.XII.**

9.00 Dla szkół (kl. II lic.) Język polski. J. Słowacki — „Fantazy”. 9.40 „Przeciwko bogom” — film fab. pol. 10.55 Dla szkół (kl. V—VI) Język polski „Szara koperta” („O miejsce wśród ludzi”) (Patriotyzm). 11.25 Przerwa. 12.45 i 15.05 Przysposobienie Rolnicze: „Podstawowe cele i zasady zmianowania roślin”. 15.00 Program dnia. 15.40 i 23.05 Politechnika TV I roku. 16.45 Dziennik. 16.55 Dla młodych widzów: „Jak dawniej latano” (III) („Klub pod Smokiem”). 17.35 „7 milionów młodych”. 17.50 „Spotkanie z orkiestrą” — film pol. 18.15 „Poligon”. 18.45 „Próby”. 19.20 „Dobranoc”. 19.30 Dziennik. 20.05 „Giełda Piosenki”. 20.35 „Próba Demokracji” — film („Drogi i bezdroża II Rzeczypospolitej”). 21.05 „Starsza siostra” — film fab. radz. 22.45 Dziennik.

**Środa, 18.XII.**

8.15 „Starsza siostra” — film fab. radz. 9.55 Dla szkół (kl. VII) Historia: „Gdy naród do boju wystąpił z orężem”. 10.25 Przerwa. 10.55 Dla szkół (kl. VIII) Chemia: „Węglowodany”. 11.25 Przerwa. 11.55 Dla szkół (kl. VI) Fizyka: „Odkrycie Pascala”. 12.25 Przerwa. 15.05 Program dnia. 15.10 „Matematyka w szkole” — Rozwiązywanie zadań na temat przystawania”. 15.40 i 22.50 Politechnika TV, kurs przygotowawczy. 16.45 Dziennik. 16.55 Dla dzieci: „Zwierzyniec”. 17.40 „Nie tylko dla pań”. 18.05 TV Kurier Warszawski. 18.20 „Muzyka uśmiechnięta” („Słuchamy i patrzymy”) II telewizyjny koncert WOSPRiT pod dyr. B. Wodiczki. 19.20 „Dobranoc”. 19.30 Dziennik. 20.05 „Stary mąż” — film („Alfred Hitchcock przedstawia”). 20.55 „Światowid”. 21.25 PKF. 21.35 „Otello z M-2” — film TVP. 22.00 „Pejzaże”. 22.30 Dziennik.

**Czwartek, 19.XII.**

8.20 „Sprytny Piotr” — film fab. bułg. 9:55 Dla szkół (kl. I lic.) Język polski: „Polska poezja renesansowa”. 10.25 Przerwa. 11.55 Dla szkół (kl. V) Historia. „Powstanie Spartakusa”. 12.25 Przerwa. 15.35 Program dnia. 15.40 i 22.25 Politechnika TV I roku. 16.45 Dziennik. 16.55 Dla młodych widzów: „Ekran z bratkiem”. 18.00 TV Kurier Białostocki. 18.15 „Osiągnięcia techniki”. 18.45 „Przegląd Muzyczny”. 19.20 „Dobranoc”. 19.30 Dziennik. 20.05 „Nad Odrą i Bałtykiem”. 20.35 „Bez instrukcji” — film TVP („Stawka większa niż życie”). 21.35 „Las teutoński” — program dok. 22.05 Dziennik.

**Piątek, 20.XII.**

9.50 „Bez instrukcji” — film TVP („Stawka większa niż życie”). 10.55 Dla szkół (kl. VII) Wychowanie obywatelskie „Z wizytą w ośrodku zdrowia”. 11.25 Przerwa. 11.55 Dla szkół (kl. VII) Wychowanie plastyczne: „Grafika”. 12.25 Przerwa. 15.05 Program dnia. 15.10 Dla szkół (kl. I lic.) „Przysposobienie obronne — działanie broni jądrowej”. 15.40 i 22.15 Politechnika TV I roku. 16.45 Dziennik. 16.55 Dla dzieci „Miś z okienka”. 17.10 „Telekram”. 17.20 TV Kurier Mazowiecki. 17.35 „Nowiny” — Magazyn Postępu Rolniczego. 18.05 Magazyn Medyczny. 18.35 „Trzy grosze” — magazyn satyryczny. 18.55 „Kronika 50-lecia Kraju Rad — rok 1928”. 19.20 „Dobranoc”. 19.30 Dziennik. 20.05 „Czwarta Zmiana”. 20.25 Teatr TV. M. Jasnorzewska-Pawlikowska — „Rezerwat”. 21.45 „10 minut recenzji’. 21.55 Dziennik.

**Sobota, 21.XII.**

9.55 Dla szkół (kl. VII) Geografia: „Jugosławia”. 10.25 „Noc wigilijna” — film fab. radz. 11.30 Przerwa. 15.20 Program dnia. 15.25 TV Kurs Rolniczy. 16.05 „O prawidłową postawę dziecka” („Wychowanie fizyczne naszych dzieci”). 16.15 Program Tygodnia. 16.45 Dziennik. 16.55 „Teleferie”. 17.50 „Spotkanie z przyrodą”. 18.15 „Gawędy wilków morskich”. 18.30 „W rytmie jazzu” — film radz. 19.00 „Gawędy o współczesności”. 19.20 „Dobranoc”. 19.30 „Monitor”. 20.10 „Proszę dzwonić...” — program rozrywkowy cz. I. 21.10 „Almanach”. 21.40 Dziennik. 21.55 Wiadomości Sportowe. 22.05 „Proszę dzwonić...” c.d. 22.20 „Obywatel Kane” — film fab. USA (Kino Interesujących Filmów).




**Piątek, 13 grudnia**

7.30 Dla szkół. 8.05 Dziennik. 8.15 Dla dzieci. 8.30 „Kłos”. 9.00 Suita W. Lewaszowa „Słońce nad Rosją”. 9.45 Spektakl TV. 15.45 „Nowiny”. 15.55 Program dnia. 16.00 „Kronika życia muzycznego republiki. Rok 1933”. 16.30 Teleturniej dla uczniów. 17.00 „5+2”. 17.30 Zakończenie Dni okręgu mińskiego. Koncert. 20.15 „Trzy dni w Meksyku”. 21.00 „Na dobranoc”.

**Sobota, 14 grudnia**

6.25 Program dnia. 6.30 Dla techników. 7.00 Gimnastyka. 7.45 Dziennik. 8.00 „Jubileusz”. 8.30 „Twardy stop”. 9.00 „Z historii fabryk”. 9.30 „TV atlas narodów ZSRR. Mołdawia”. 10.15 „Zdrowie”. 10.40 „Czy będzie pokój w Wietnamie”. 11.00 „Szkatułka muzyczna”. 11.20 „Dobra tradycja”. 11.30 TV teatr dla dzieci. 13.00 TV barwna. 15.30 „Świat socjalizmu”. 16.00 „Anna Karenina”. Film — spektakl. 18.45 „Czas”. 19.15 „Klub amatorów pieśni” 21.15 Dziennik.

**Niedziela, 15 grudnia**

6.25 Program dnia. 6.30 Dla techników. 7.00 Gimnastyka. 7.15 Dziennik. 7.30 „Budzik”. 8.00 „Dla was, kobiety”. 8.30 Dla uczniów. 9.00 „Droga do nauki”. 10.00 Program z NRD. 11.00 Dla uczniów. 11.30 Dla żołnierzy. 12.00 „Kiosk muzyczny”. 12.30 Film animowany dla dzieci. 14.00 Zawody międzynarodowe w jeździe figurowej na lodzie (z Pałacu Sportu). 16.00 „Klub Wesołych-68”. 18.00 „Dom ojcowski”. Film. 19.35 „Sąsiad nasz — Finlandia”. Turniej TV. 20.45 „Filmoteka muzyczna”.




**А. Вязоўскі з Зубава** ў сваім пісьме піша: «Здаецца, ужо мінае 3 гады, як «Польскае радыё» пачало надаваць начную праграму да трэцяй гадзіны. Кожны дзень дыктары абмяркоўваюць праграму на пасля поўначы. Сёння, хіба, няма такога чалавека, якога не цікавіў бы цэлы свет. Цікавіць ён вельмі і мяне. Згодна з запрашэннем «Нівы» № 46 «Наша пошта», пытаю, **чаму радыёвузел у Бельску Падляшскім не перадае вышэй успамянутай праграмы пасля поўначы? І чаму часам можна выслухаць некалькі мінут, нават і паўгадзіны, а потым перадача перарываецца?** Да радыёвузла належыць можа сотня вёсак, якія хацелі б слухаць праграмы пасля поўначы».

**Адказ:** Дарагі Чытач! Пытаннямі з вашага пісьма я зацікавіў дырэктара RUT (Rejonowy Urząd Telekomunikacyjny) у Бельску Падляшскім тав. Гінду. Ён тэлефанічна паінфармаваў мяне, што мае загад вышэйшых улад, у якім гаворыцца, што **радыёвузлы ў паветах і павятовых гарадах павінны перадаваць праграму толька да $24^{00}$ гадзіны.** Ад $24^{00}$ да $3^{00}$ гадзіны — павінны перадаваць толькі радыёвузлы ў ваяводскіх гарадах. Што датычыць другога пытання, дык дырэктар Гінда сказаў мне, што **могуць быць выпадкі, што радыёвузел іграе нейкі час пасля $24^{00}$ гадзіны. Звязана гэта з кансервацыяй апаратуры, якую праводзіць тэхнічная служба радыёвузла.**

Апрача таго, я даведаўся, што няма ні тэхнічных ні матэрыяльных цяжкасцей, каб перадаваць пасляпаўночныя перадачы праз павятовыя радыёвузлы. **Загад,** які гаворыць, што павятовыя радыёвузлы павінны перадаваць толькі да $24^{00}$ гадзіны, **абаперты быў на даследванні польскім радыё грамадскай думкі сярод вясковага насельніцтва. Даследваныя жыхары вёсак выказаліся, што яны не слухаюць ад $24^{00}$ да $3^{00}$ гадзіны радыёперадач.**

Пішаце, што ўжо «13 год з'яўляецеся чытачом нашага тыднёвіка», таму складаю вам віншаванні і найлепшыя пажаданні.

Дарадчык

Напамінаю, што пісаць да мяне трэба на адрас: Redakcja „Niwa" Białystok, ul. Wesołowskiego 1. «Дарадчык»

# НА СТАРОНКАХ „ПОЛЫМЯ"

Лістападаўскі нумар «Полымя» адкрываецца новым раманам Івана Шамякіна «Снежныя зімы». Раман друкуецца не поўнасцю. Заканчэнне яго ў наступным нумары. Калі яно будзе вытрымана ў такім духу, як надрукаваная частка, гэта будзе выдатная рэч. Пісьменнік кранае характэрныя рысы сучаснага савецкага грамадства. Тэма не новая: бацькі і дзеці. Але, пастаўленая вопытнай рукой у новыя абставіны, загаварыла свежым голасам. Усе, хто цікавіцца сучасным развіццём савецкага грамадства, знойдуць тут адказы на многія пытанні.

З вершаў, надрукаваных у гэтым нумары, звяртаем асаблівую ўвагу на цыкл Рыгора Барадуліна, і на новыя пераклады вершаў вядомага польскага паэта Станіслава Рышарда Дабравольскага.

Чытачам, якія цікавяцца беларускім тэатрам і мастацтвам, раім прачытаць артыкул міністра культуры БССР Міхася Мінковіча, які падводзіць вынікі гэтых галін за гады савецкай улады. Настаўнікам рэкамендуем артыкул Міколы Старавойтава аб эстэтычным навучанні і выхаванні вучняў.

У раздзеле мемуарным надрукаваны цікавыя ўспаміны вядомага беларускага вучонага Андрэя Пракапчука, які расказвае аб сваім жыццёвым шляху, што звычайнага вясковага хлапчука прывёў у акадэмію навук, а таксама новыя раздзелы ўспамінаў былога начальніка штаба Першай мінскай партызанскай брыгады М. Джагарава.

У сувязі са 150-й гадавінай з дня нараджэння І. Тургенева з артыкуламі аб гэтым выдатным рускім пісьменніку выступаюць Піліп Пестрак, Аляксей Кулакоўскі і Вера Палтаран. Апошняя, між іншым, да прадаўжальнікаў традыцыі Тургенева ў беларускай літаратуры адносіць Янку Брыля, Івана Мележа, Івана Пташнікава, Івана Чыгрынава і Барыса Сачанку.

Апошні нумар «Полымя» прыносіць таксама два невядомыя артыкулы Кузьмы Чорнага з часоў вайны, артыкулы пра Алеся Бажко і Уладзіміра Шахаўца, рэцэнзіі на новыя паэтычныя кнігі М. Лупсякова «Выбраныя творы», Янкі Сіпакова «Дзень» і даследванне Антона Семяновіча «Беларуская савецкая драматургія».

**Ювэ**

# Сакольскае „ці ведаеце, што"...

...Сакольскі павет складаецца з трох зон рознага развіцця сельскай гаспадаркі, што знаходзіць сваё адлюстраванне м.ін. ва ўраджайнасці палёў, якая ў найбольш развітай Янаўска-Карыцінскай зоне з'яўляецца большай да 6-ці цэнтнераў з аднаго гектара.

...Сакольшчына мае асабліва спрыяльныя глебавыя ўмовы для разгортвання кантрактацыі бульбы (смачнай), а таксама сырадэлі, горкага лубіну і канюшыны, але вынікаюць абмежаванні ў кантрактацыі бульбы з прычыны недахопу сеткі адпаведных складаў, што мае адмоўны ўплыў на агульнае развіццё кантрактацый: калі ў мінулым годзе было ахоплена кантрактацыяй каля дзвюх з паловай тысяч гектараў, дык сёлета павялічыцца яна на каля паўтысячы гектараў. Тэмп малы.

...Магчымасць арганізацыі ПГР-аў у найслабей развітай паўднёва-ўсходняй зоне павета (Крыншчына) з'явіцца рэальнай не раней, чым пасля 1971 года, што будзе мець значэнне ў інтэнсіфікацыі мясцовай сельскай гаспадаркі.

...Вясковыя партыйныя арганізацыі Сакольшчыны звярнулі асаблівую ўвагу на ліквідацыю недахопаў у агранамічнай і заатэхнічнай службах, а таксама пачынаюць захады адносна электрыфікацыі заняпалых вёсак, як Азяраны і Гаркавічы, у чым неабходная падтрымка з боку мясцовага насельніцтва ў правядзенні (грамадска) неспецыялістычных работ.

...Знакам добрых перспектыў сакольскай гаспадаркі з'яўляецца выключна вялікае — у параўнанні да іншых паветаў — зацікаўленне мінеральнымі ўгнаеннямі, амаль удвая большае, чым у мінулым годзе.

...За чатыры апошнія гады ўзрасла пакупная сіла насельніцтва павета, што знаходзіць сваё адлюстраванне ў павелічэнні абароту ГС-аў у сярэднім на каля 50 працэнтаў.

...За той жа перыяд рост ураджайнасці палёў Сакольшчыны ацэньваецца на 1,3 цэнтнера з аднаго гектара.

(С. Я.)

# Бельскія планы

У Бельскім Беларускім ліцэі запланавалі рад цікавых і патрэбных мерапрыемстваў. Перш за ўсё — папулярна-навуковая сесія, прысвечаная 50-годдзю КПП, 45-годдзю КПЗБ і Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамадзе. Адбудзецца яна яшчэ ў гэтым годзе, матэрыялы на сесію падрыхтуюць самыя вучні.

Запланаваны таксама сустрэчы з дэлегатамі на V з'езд ПАРП, м. ін., з Лізай Верацёнка, выбранай ад імя бельскай партыйнай арганізацыі.

У ліцэі запланавана рэгулярна правадзіць даклады пры садзеянні школьнай арганізацыі ЗМС. Агульная тэма дакладаў «У краіне і на свеце». Такія штотыднёвыя даклады — вельмі патрэбнае мерапрыемства, дзякуючы якому вучнёўская моладзь атрымае своечасовую інфармацыю аб актуальных праблемах палітычнага ды гаспадарчага жыцця ў нашай краіне і ў свеце.

З ліку іншых мерапрыемстваў варта зазначыць такія, як вечарынка, у час якой вучні першых класаў ліцэя пазнаёмяцца са сваімі сябрамі па школе са старэйшых класаў; выезд на канцэрт у Нацыянальную філармонію, у тэатр і інш.

Так прадуманы план працы дасканала сугучны з выхаваўчымі мэтамі гэтай адной з лепшых беларускіх сярэдніх навучальных устаноў. (ся)

**Публікацыі**

# Тэярд дэ Шардэ і праваслаўе

Гаворачы асцярожна, французскі каталіцкі філосаф Тэярд дэ Шардэ, стаў найпапулярнейшым філосафам апошняга дзесятка гадоў. Працы Тэярда пачалі публікавацца пасля яго смерці, перакладзены былі на ўсе амаль асноўныя мовы свету і дасягнулі неймаверна вялікіх тыражоў. Думка Тэярда не знайшла афіцыйнага прызнання ў Ватыкане. Надта яна, у адносінах да афіцыйнай дактрыны каталіцызму, рэвізіянісцкая. Думка гэтая знайшла аднак сярод католікаў і не толькі католікаў надзвычай многа прыхільнікаў. У сваіх працах Тэярд выказвае погляды, блізкія пантэізму. Хрыста разумее ён як увасабленне і заканчэнне доўгатрывалага працэсу эвалюцыі, заканчэнне, да якога зараз рознымі шляхамі імкнецца чалавецтва, уключаючы ў гэта тэхнічны прагрэс і рэвалюцыйны рабочы рух.

Сярод мноства публікацый аб Тэярдзе, якія амаль штотыдзень паяўляюцца ў друку, увагу нашую звярнуў артыкул праваслаўнага тэолага, выкладчыка Хрысціянскай тэалагічнай акадэміі ў Варшаве Г. Клінгера на тэму: «Тэярд дэ Шардэ і традыцыя ўсходняй царквы», друкаваны ў 6-7 нумары каталіцкага месячніка «Życie i Myśl». Аўтар гэтага артыкула даходзіць да нечаканых і цікавых вывадаў. Сцвярджае ён менавіта, што праваслаўная царква заўсёды прытрымлівалася поглядаў, якія толькі цяпер на грунце каталіцызму папулярызуюцца праз творчасць Тэярда дэ Шардэ. (п)

**ЧЫТАЙЦЕ І РАСПАЎСЮДЖВАЙЦЕ „НІВУ"**

**ДА 50-ГОДДЗЯ БССР** (2)




Беларуская савецкая дзяржаўнасць нараджалася ў цяжкіх умовах таго часу, калі закончылася сусветная вайна, але міру яшчэ не было. Мінск ад 10 снежня 1918 г быў ужо вызвалены Чырвонай Арміяй і знаходзіўся ў прыфрантовай зоне. Толькі некалькі дзён як дзейнічаў тут Ваенна-рэвалюцыйны камітэт на чале з польскім камуністам Станіславам Бэрсанам. Наогул, у прыфрантавых зонах усюды поўная палітычная ўлада знаходзілася ў руках Ваенна-рэвалюцыйных камітэтаў, якія ствараліся партыйным кіраўніцтвам і дзейнічалі па прынцыпе ваеннай дысцыпліны, што тады было неабходна.

27 снежня ў Народным камісарыяце па нацыянальных справах РСФСР адбылася нарада ў справе беларускага нацыянальнага і дзяржаўнага будаўніцтва. 30 і 31 снежня 1918 г. у Смаленску засядала VI Паўночна-Заходняя акруговая канферэнцыя РКП(б). У канферэнцыі ўзяло ўдзел 175 дэлегатаў з рашаючым голасам і 31 — з дарадчым. Яны былі прадстаўнікамі каля 18 тыс. членаў партыі з Мінскай, Магілёўскай, Віцебскай, Смаленскай, часткова Віленскай і Чарнігаўскай губерняў. У сваім галоўным дакладзе старшыня Паўночна-Заходняга акруговага камітэта партыі А. Ф. Мяснікоў выступіў з прапановай аб утварэнні самастойнай рэспублікі Беларусі. Прапанова была прынята аднагалосна. Узяўшы пад увагу тое, што на канферэнцыі былі прадстаўлены ўсе беларускія арганізацыі, канферэнцыя пастанавіла, што яна з'яўляецца І з'ездам Камуністычнай партыі (бальшавікоў) Беларускай рэспублікі.

З'езд выбраў членаў Цэнтральнага Бюро Камуністычнай партыі (б) Беларусі. У склад Бюро ўвайшло 13 членаў: А. Мяснікоў (старшыня), В. Кнорын (сакратар), І. Алібегаў, М. Калмановіч, Я. Пярно, В. Селязнёў, В. Яркін, Д. Жылуновіч і іншыя. Цікавай постаццю з'яўляецца Дзмітр Жылуновіч — рабочы, паэт, публіцыст (паэтычны псеўданім Жылуновіча — Цішка Гартны).

31 снежня 1918 года быў створаны Часовы рэвалюцыйны рабоча-сялянскі ўрад Беларусі на чале з Дзмітрам Жылуновічам. 5 студзеня 1919 г. гэты ўрад перанёс сваю сядзібу са Смаленска ў Мінск. У той жа дзень была прынята пастанова Савета Народных Камісараў аб тым, што на дзень 2 лютага 1919 г. будзе скліканы Першы з'езд Саветаў ССР Беларусі.

Дзень 1 студзеня 1919 г., дата абвяшчэння маніфеста Часовага ўрада, лічыцца днём нараджэння Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі. Дэкрэт прэзідыума Усерасійскага Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта аб прызнанні незалежнасці ССР Беларусі датаваны 4 лютага 1919 г.

Затрымаемся яшчэ коратка на групе тых дзеячаў, якія адыгралі ролю галоўных ініцыятараў утварэння БССР.

Невыпадковым было тое, што Станіслаў Бэрсан вырашыў назвацьпрэсавы орган кіраванага ім Мінскага губрэўкома «Белорусская Коммуна». Ён звярнуўся да Акруговага камітэта партыі ў Смаленску з прапановай, каб у парадак дня VI Паўночна-Заходняй акруговай канферэнцыі РКП(б) уключыць пункт: «Пытанне беларускай дзяржаўнасці». А. Мяснікоў адхіліў гэту прапанову. Тады Бэрсан звярнуўся непасрэдна да старшыні ВЦВК Я. Свярдлова. Толькі гэтае ўмяшанне падзейнічала. Свярдлоў выступіў як актыўны прыхільнік утварэння спачатку ССРБ, а потым Літоўска-Беларускай Савецкай Рэспублікі. Не ведаем дакладна, калі адбылася дыскусія ў лоне ЦК РКП(б) на тэму ўтварэння ССРБ. Здаецца несумненным адмоўнае становішча Аблвыканкомзаха ў Смаленску па гэтаму пытанню. Мяснікоў увесь час выступаў прыхільнікам «областничества».

У Маскве ў якасці хадайніка беларускай дзяржаўнасці дзейнічаў патрыёт — рэвалюцыянер Дзмітр Жылуновіч. Ён быў членам калегіяльнага кіраўніцтва Белнацкома (Беларускі Нацыянальны Камісарыят), дзе працаваў разам з А. Чарвяковым і Ул. Скарынкай. Рэдагаваў газету «Дзянніца». Часовы рэвалюцыйны рабоча-сялянскі ўрад Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі Беларусі ўтварыўся ў выніку кампрамісу паміж некалькімі сапернічаючымі паміж сабой групоўкамі. Асаблівай увагі сярод іх заслугоўваюць даўнія дзеячы левага крыла Беларускай Сацыялістычнай Грамады, якія цяпер сталі пераважна камуністамі. Дзякуючы ім, урад Жылуновіча па асабістым складзе меў выразна беларускі нацыянальны профіль. З другога боку, гэтыя людзі, дзякуючы іх сувязям з Беларускім Нацыянальным Камісарыятам у Маскве, былі лепш азнаёмлены з нацыянальным пытаннем у палітыцы КПСС. Маем на думцы васьмярых дзеячаў Беларускага Нацыянальнага Камісарыята. Гэта былі Жылуновіч, Чарвякоў, Дыла, Чарнушкевіч, Шантыр, Фальскі (Вітальд Фальскі, чыгу-

 

# СПРАВЫ РЫБАЛАЎСКАЙ ШКОЛЫ

Рыбалаўская школа даўно ўжо стала не толькі месцам, дзе выхоўваецца маладое пакаленне вёскі, але і важным цэнтрам культурнага жыцця моладзі і дарослых. Рыбалаўская школа мела шчасце да добрых настаўнікаў — ахвярных грамадскіх дзеячаў, якія сваіх абавязкаў не завужваюць да навучання дзяцей, але ўключаюцца ў грамадскае жыццё вёскі, арганізуючы перад усім мастацкі аматарскі рух. Раней рабіла гэта настаўніца Аляксандра Панасюк, а зараз — кіраўнік школы Сяргей Філіпюк. Артысты-аматары з Рыбалаў займалі неаднойчы вядучыя месцы ў розных алімпіядах ды конкурсах, робячы такім чынам добрую славу Рыбалам, іх школе і яе настаўнікам. Аднак рыбалаўская школа ды яе настаўнікі ад дзесяці амаль гадоў заняты асноўнай для іх турботай: як змясціць у цесных сценах старога будынка пабольшваючуюся з года ў год колькасць дзяцей ды прыхільную да грамадскай працы старэйшую моладзь?

У Рыбалах ведалі, што калі ёсць яшчэ сякі-такі школьны будынак, новага за дзяржаўныя грошы ўлады будаваць не пачнуць. Ёсць жа ў нас яшчэ і такія вёскі, у якіх зусім няма школьных будынкаў. У Рыбалах быў зроблены лагічны вывад: трэба пачаць разбудоўваць старую школу грамадскім чынам.

Было гэта ў 1963 годзе. Бацькоўскі камітэт пастанавіў дабудаваць уласнымі сродкамі адну залу. Потым план пераўтварыўся ў больш амбітны. Улады паабяцалі далажыць да сялянскай ініцыятывы дзяржаўных грошай, і ў Рыбалах падумалі аб разбудове школы ўсур'ёз.

Будова пачалася. Ініцыятары сабралі па 150 злотых ад гаспадара на пакупку будаўнічых матэрыялаў і прыступілі да справы. Калі каля будовы закруціліся на добра нагружаныя каменнем і жвірам вазы, заўважылі, што будова не можа далей прадаўжацца, бо няма неабходнай да гэтага дакументацыі. Трэба было зрабіць план. План, вядома, каштуе. Але інжынер Садоўскі з Бельска згадзіўся зрабіць яго дарма, у рамках абавязацельстваў у гонар 1000-годдзя дзяржавы.

У 1967 годзе гаспадары з Рыбалаў — выключна ўласнымі сіламі — пабудавалі зруб будучага школьнага будынка. Будуць у ім дзве вялікія школьныя залы, канцылярыя, склад на розныя школьныя прылады. Кошты сялянскіх сродкаў і сялянскай працы складаюць звыш 50 працэнтаў коштаў усяе пабудовы.

Сяляне, можна сказаць, сваё выканалі. Рэшта, згодна з забавязаннямі ўлад, павінна да іх належыць. Але тут пачаліся клопаты. Спачатку былі фармальныя цяжкасці з выкарыстаннем прызначаных на гэтую мэту грошай з Фонду пабудовы школ і інтэрнатаў. Потым, калі неабходныя фармальнасці былі выкананы, пачаліся іншыя турботы. Трэба было знайсці гэтак званага выканаўцу — дзяржаўнае прадпрыемства, якое згадзілася б закончыць будову. Урэшце і гэта было зроблена. Будову згадзілася выканаць папулярна званая ў нас «Велёбранжуўка». Згадзілася, але з асцярогаю, што за работу возьмецца толькі тады, калі ў прадпрыемстве будуць неабходныя будаўнічыя матэрыялы. А з будаўнічымі матэрыяламі, як вядома, бывае па-рознаму. Тым часам прайшло адно лета, потым другое, і зіма ідзе ўжо другая, а зруб рыбалаўскай школы нішчэе ад ветру і марозу. Будавалі яго мясцовыя сяляне з вялікімі намаганнямі, пераважна ў нядзелю, пасля заканчэння сваіх неадкладных гаспадарчых работ. Будавалі па тое, каб вучыліся тут дзеці, а не па тое, каб нішчэў ён на ветры ды марозе. Нічога тады дзіўнага, што гаспадары з Рыбалаў злуюцца.

— Навошта, — кажуць, — было абяцаць ды заахвочваць да работы!

А ў школе надалей цесната. Вучацца 115 дзяцей. Працуе 6 настаўнікаў. У школе 8 класаў, а ў школьным будынку ўсяго 3 навучальныя залы. Школа мусіць наймаць залы ў прыватных хатах ды вучыць дзяцей на дзве змены. Будзьма шчырымі, выпадкаў такіх многа ёсць яшчэ ў нашых вёсках. І не гэта нервуе рыбалаўскіх гаспадароў. Нервуе тое, што трэба з боку адпаведных уладаў толькі крыху больш добрай волі — і дзеці пачалі б вучыцца ў зусім іншых, беспараўнальна лепшых умовах.

**Ул. Паўлючук**

## Запраўка збожжа

Запраўка хімічнымі сродкамі пасяўнога збожжа, як вядома, нішчыць розныя шкоднікі і садзейнічае павышэнню плёнаў.

У 1968 годзе сельскагаспадарчыя гурткі ўпершыню рашылі правесці масавую запраўку пасяўнога збожжа. Дзеля гэтага за грошы дзяржаўнага фонду развіцця сельскай гаспадаркі купілі яны аж паўтары тысячы ручных машынак да запраўкі насення і перадалі іх у супольнае карыстанне гаспадарам. (вр)

---

начны служачы, праўдападобна, паляк), Квашанюк і Рузыроў.

Названы ўжо некалькі разоў вышэй Станіслаў Бэрсан (паходзячы з Варшавы) стаў народным камісарам дзяржаўнага кантролю. Праўдападобна, палякам быў і Савіцкі — транспарт. Звяртае на сябе ўвагу вялікая роля ў палітычным жыцці Мяснікова — Мяснікяна, які спалучыў у сваёй асобе дзве важныя пасады: старшыні Цэнтральнага Бюро партыі і народнага камісара нацыянальнай абароны.

Нацыянальнае пытанне выступала як другапланавая з'ява. Антынямецкая партызанская барацьба беларусаў прыспешыла працэс нарастання нацыянальнай свядомасці. Вышэйшай, першапланавай падзеяй была аграрная рэвалюцыя.

Аднак нельга не дацэньваць велізарнага значэння нацыянальнага пытання. Бо толькі беларуская савецкая дзяржаўнасць гарантавала беларускаму народу грамадскае і нацыянальнае вызваленне, ліквідацыю галечы і непісьменнасці, развіццё культуры на роднай мове і раўнапраўе ў вялікай сям'і народаў Краіны Саветаў. Больш таго: толькі дапамога Савецкай Расіі (матэрыяльная, ваенная і палітычная) магла быць гарантыяй бяспекі Беларусі ад знешняй узброенай інтэрвенцыі і ўнутранай контррэвалюцыі.

**Аляксей Дэруга**

---

### ФРАГМЕНТЫ АСЕННЯГА ДНЯ Ў ЛАСІНКАЎСКАЙ ГРН



**Канчаецца вёска Крывец і далей бяжыць такая вось дарога. Бачым яе апошнія дні. Будзе зменена рукамі Уладзіміра Дзмітрука і яго жонкі Марыі з Лапухоўкі.**

## ПАД ЗНАКАМ ДАРОГ

На тэрыторыі цэлай вялікай грамадскай рады нарадовай Ласінка ўсе гавораць пра дарожныя чыны. Гавораць і робяць. Столькі ўжо год! Таксама і апошняя восень праходзіла пад гэтым жа знакам. Восень — гэта час працы грамадскім чынам для вёсак. Калі палі пустыя, людзі выходзяць на дарогі, на працу грамадскім чынам.

Некаторыя праезды цяжка назваць дарогамі. Балота па калені. Як не хаці гаварыць тут пра культурныя заняткі людзей, святліцы, чытальніцтва, усё роўна перамагае размова аб дарогах.

У час адной такой размовы найлепш рашыў сакратар грамадскага камітэта партыі ў Ласінцы **Сцяпан Каролька,** які сказаў: паедзем і пабачым. Дарога вяла ў Крывец, потым была вёска Трывежа. Вуліца тут — адзін вялікі пляц будовы, дарог, зразумела. Людзі працуюць, чакаюць і пытаюць, калі пойдзе сюдою ПКС. Хочацца ім, каб як найхутчэй. Каб выйсці толькі з хаты і магчы сесці і ехаць. Дагэтуль з тутэйшых вёсак выехаць было цяжка. Усюды кругом быў «забіты кут».

Едзем далей дарогамі. Яшчэ кароткі прыпынак неаподаль вёскі Камень. Дзяўчаты працавіта скідаюць жвір з трактараў. **Оля Ваўрэнюк** з Лапухоўкі з іх найадважнейшая. Адна яна гаворыць, жартуе. Потым доўга стаіць і глядзіць нам услед. Таксама адварочваюся, каб глянуць на яе яшчэ, па-рабочаму апранутую, у нагавіцах, адважную такую дзяўчыну.

Разумею ўжо вялікі расказ пра дарогі ў Ласінкаўскай ГРН. Расказ, якога героямі з'яўляюцца людзі, што праз балота асенняе пракладаюць дарогі ў свет. Старэйшыя і маладыя, а нават дзеці. Масавай працай грамадскім чынам хваліцца асабліва вёска Крывец, з якой моладзь ЗМВ усім гуртком выходзіла на працу, з якой школьнікі ў сто асоб са сваёй настаўніцай **Нінай Рэент** садзілі дрэўцы.

Дарогай, што паявілася паміж IV і V з'ездамі партыі, выязджаем з ураджайнай ласінкаўскай зямлі. За намі асеннія дарогі з людзьмі, як мурашкамі, вазамі, коньмі, і нават дзяцьмі. «Мы хвалімся чынамі», — кажа шматгадовы тутэйшы старшыня прэзідыума ГРН **Шымон Паўлоўскі.**

*

Толькі ў гэтым годзе ў ГРН Ласінка выпрацавана грамадскім чынам 830 тысяч злотых. Тут увесь грамадскі фонд рады нарадовай прызначаюць на дарогі.

Тэкст **Вера Леўчук**
Фота **Р. Сянько**



**На асеннім прыволлі ласінкаўскай зямлі старшыня ПГРН у Ласінцы Шымон Паўлоўскі і сакратар грамадскага камітэта ПАРП у Ласінцы Сцяпан Каролька (ён жа і дарожны інструктар) углядаюцца ўдаль.**



**Оля Ваўрэнюк з сяброўкамі у час працы неаподаль вёскі Камень.**





**Па новых дарогах ідуць ПКС-ы. Пры новых дарогах, як грыбы пасля дажджу, вырастаюць аўтобусныя прыпынкі. Гэты будуецца, як і многія іншыя, грамадскім чынам неаподаль вёскі Крывец.**



 




### Вокны зімою

Каб зімою вокны не пацелі, трэба шыбы праціраць анучай, змочанай растворам з 1 часткі ачышчанай гліцэрыны і 20 частак звычайнага (можна дэнатураванага) спірту. Прыблізна праз кожныя два тыдні шыбы старанна праціраюць сухой мяккай анучкай і змазваюць новай порцыяй раствору.

А як ачысціце шыбы ад лёду? У цёплы раствор спажыўной солі або квасцоў (на 1/2 літра вады жменю солі) мачаюць губку або мяккую шчотку і водзяць ёю па замерзлай шыбіне. Калі ледзяная кара знікне, шыбы трэба насуха выцерці анучай.

**Цікавыя гісторыі**

## Мадэль-важак птушак

Аб тым, што птушкі праяўляюць павышаную цікавасць да самалётаў, у «Ніве» паведамлялася ўжо. Пры ўзлёце раскрытыя пашчы рэактыўных рухавікоў часта разам з паветрам усмоктваюць неасцярожных шпакоў, галубоў і чаек. У лепшым выпадку гэта зніжае магутнасць рухавіка, і самалёт не можа падняцца. У горшым — ён церпіць аварыю ў паветры і падае.

Інжынеры перабралі мноства спосабаў адпалохвання птушак з узлётных пляцовак. Але ніводзін з іх (нават ястрабы, якіх завялі на некаторых аэрадромах) не даў жаданых вынікаў.

І вось нядаўна прыйшло паведамленне аб новай ідэі, нікольні не менш нечаканай і прыгожай, чым ястрабіны патруль. Яе паставіў і ажыццявіў на практыцы англійскі радыёмеханік і авіямадэліст Торп. Ён прапанаваў адцягваць птушак ад узлётна-пасадачных полас падманным шляхам. Торп вырашыў сыграць на птушынай цікаўнасці. І вось як.

Уздоўж бетоннай дарожкі, занятай птушкамі, на некаторай вышыні пускаецца кіруемая па радыё мадэль. У падыходзячы момант яна пікіруе на чараду, паднімае ўсіх у паветра і вядзе далей ад пляцоўкі, накшталт таго, як сабака чабана вядзе за сабой дурных бараноў.

Правялі доследы. Атрымалася добра. Птушкі ахвотна ляцелі за падстаўным лайнерам.

Поспех акрыліў эксперыментатараў, і яны вырашылі тым жа спосабам паспрабаваць адцягваць птушак ад памыйных ям, дзе яны наладжваюць непажаданыя баляванні, і потым разносяць вакол заразу.

Гаварыць аб тым, што канфлікт непадзельнай сімпатыі паміж птушкамі і самалётамі вычарпаны, пакуль што рана. Трэба праверыць, ці не раскрываюць птушкі з цягам часу падман.




## Замах у Страсбургу

У пачатку 60-х гадоў у Кенігсхофене, прадмесці Страсбурга (Францыя), паліцыя арыштавала двух заходнегерманскіх прадстаўнікоў французскай фірмы «Брунер і Канфран Мотор Ойл». Іх абвінавачвалі ў прамысловым шпіянажы, сабатажы і замаху на ўзрыў фабрыкі. На гэтым прадпрыемстве была сканструявана электрычная хатняя печ, якая лічылася сенсацыйнай навінкай. Гэта пахіснула манапольнае становішча раду заходнегерманскіх фірм, што выпускалі электрычныя печы і да гэтага часу не мелі сур'ёзнай канкурэнцыі. На фабрыку была паслана спецыяльная сабатажная група, якая павінна была перашкодзіць выпуску новай печы. Вынікам яе дзейнасці з'явіліся частыя паломкі машын і высокі працэнт браку. З прычыны таго, што ёй усё ж не ўдалося спыніць вытворчасці, то два яе ўдзельнікі вырашылі выкрасці вынаходку і ўзарваць фабрыку.

Злачынства было папярэджана літаральна ў апошнюю мінуту. Але калі б яно здзейснілася, выбух разбурыў бы не толькі фабрыку, але і значную частку Кенігсхофена.

## САБАТАЖ З-ЗА ВУГЛА

У гады першай сусветнай вайны многія вучоныя заняліся распрацоўкай метаду выкарыстання для выбухаў вадкага паветра (больш дакладна, вадкага кіслароду). Адкрыта гаварылася аб дасягнутых выніках. За работай вучоных уважліва сачыў канцэрн «ІГ Фарбэн», які ў тагачаснай Германіі быў буйнейшым пастаўшчыком выбуховых сродкаў. Удасканальванне і пашырэнне метаду выбуху вадкім кіслародам былі пагрозай для аддзялення выбуховых рэчываў канцэрна. Манапалістычны капітал зноў выкарыстаў выпрабаваны метад подкупу. Аднаму са спецыялістаў «Савет- багоў» (г. зн. кіраўніцтва канцэрна) штогод пераводзіў праз канцэрны Ідуна (фірма выбуховых рэчываў канцэрна «ІГ Фарбэн») па 30 тысяч марак толькі за тое, каб ён прапагандаваў кіслародны метад толькі для строга абмежаваных мэт. У друк дапускаліся толькі паведамленні аб неспрыяльных выніках, канцэрн імкнуўся ўсімі мерамі перашкодзіць праведзенню публічных доследаў, якія прадэманстравалі б перавагу новага метаду. Справа даходзіла да таго, што наймаліся людзі, якія павінны былі перарэзаць пракладзеныя для кіслароду трубаправоды.



**Прафесія барабаншчыка ў Афрыцы надалей папулярна. На здымку: Галоўны музыкант правадыра Энугу ва Усходняй Нігерыі.**




### Боршч беларускі

З ялавічыны і касцей ад вяндліны зварыце булён. Моркву, пятрушку, рэпчатую цыбулю нашаткуйце саломкай і спасеруйце, дадайце тамат-пюрэ і працягвайце пасераваць яшчэ мінут 10.

У булён пакладзіце бульбу, нарэзаную кубікамі, давядзіце да кіпення, а затым пакладзіце нашаткаваныя саломкай буракі (іх трэба да гэтага зварыць, не абіраючы), пасераваныя гародніну і муку і варыць 10—15 мінут. Запраўце боршч цукрам і воцатам. Падаюць такі боршч з мясам, сасіскамі, смятанай. Калі няма касцей ад вяндліны, булён вараць з шынкі.

### Каб не плакаць

Каб не праліваць слёз, калі абіраеце цыбулю, загадзя абліце яе кіпетнем.



## НАВІНКІ ТЭХНІКІ

### ЛАЗЭР І ТАТУІРОЎКА

Дзе толькі не прымяняецца цяпер выдатнейшае вынаходніцтва фізікаў — лазэр! Адзін з амерыканскіх прафесароў паведамляе, што інтэнсіўны светлавы прамень лазэра лёгка і без болю знішчае на скуры чалавека татуіроўку і радзімкі. Да гэтага часу вывядзенне татуіроўкі было складанай і вельмі пакутлівай аперацыяй.



**Ці ведаеце, што...**

...у Англіі створаны апарат, які можа перадаваць каляровыя здымкі на вялікія адлегласці.

**Народны каляндар**

Снежань цёплы і сыры — чакай бяды: вясною халады, зіма зацягнецца і вясна будзе позняя.

**Чвэрць стагоддзя назад**



## СЯРОД СВАІХ

Пасля двух дзён Тарлецкая прыняла нас як старых знаёмых. Штосьці ў ёй змянілася. Звязала з давераным чалавекам з Шымак Юльянам Хількевічам. Ён памог нам выбраць месца на зямлянку. Было яно паміж вёскай Шашылы і маёнткам Калейтычы на лясным узгорку, які ўрэзваўся ў багно ракі Нурэц. Называлася гэта месца Кабылячыя Галовы. Відаць, калісьці быў тут конскі могільнік.

Хількевічу далі мы псеўданім «Пётр». Ён прынёс лапаты, сякеру, салому. Капаць зямлянку памагалі сыны Тарлецкай — Раман і Аляксандр.

Ідучы з Кабылячых Галоў ў Шашылы, трэба было пераходзіць Нурэц па кладцы з доўгіх сасновых жэрдак. Вяртаючыся позна вечарам да Тарлецкіх, напароліся мы пры кладцы на групу людзей.

— Стой! Хто ідзе? — аклікнулі нас.

— Пароль?

— Мы не тутэйшыя, пароля не ведаем, — адказаў Нячаеў. — А вы хто?

— Мы савецкія партызаны, — быў адказ.

— Мы таксама, — адказаў Нячаеў.

Пачаліся перагаворы на адлегласць, потым кожны з бакоў вызначыў па адным парламентарыю для адбыцця перагавораў на нейтральнай паласе. Ад нас пайшоў лейтэнант Новікаў.

Так прыблізна адбылася сустрэча нашай тройкі з дзейнічаючай на гэтай тэрыторыі партызанскай групай Смірнова. Так, як мы шукалі кантактаў з мясцовымі партызанамі, яны шукалі сувязі з кімсьці, хто прадстаўляў бы арганізацыю, кіраваную з-за лініі фронту. Калі ў час першай пабыўкі ў Соні Тарлецкай ноччу пакінулі мы яе дом, сын Тарлецкай Раман праз гадзіну пасля нашага адыходу склаў справаздачу з нашага візіту Смірнову.

Смірноў вырашыў нас праверыць. Яго план быў такі. Калі мы зойдзем да Соні яшчэ раз, тая звяжа нас з Хількевічам. Той, у сваю чаргу, паабяцае наладзіць сувязь з партызанамі, а пакуль схавае нас у клуні. Карміць нас будзе ў кухні. Пад падлогай у кухні ёсць склеп. Там схаваецца Мішка Ленінградзец. А ў яго вушы, бы ў Паганіні. Хількевіч да таго зробіць так, каб засталіся мы самі, каб маглі мы гаварыць паміж сабою адкрыта.

Становішча прымусіла нас вярнуцца, і Смірноў са ўсёй дакладнасцю правёў свой план. Праз чатыры дні позним вечарам, калі ўся вёска спала, елі мы ў кухні Хількевіча. Гаспадар выходзіў то падсыпаць коням аброк, то падкінуць каровам сена. Яго сям'я спала ў іншым пакоі. У гэты час мы ўкладалі планы на будучыню. Не ведалі, што чыесьці вуха аднатоўвае кожнае наша слова.

Смірноў падпарадкаваўся нам са ўсёй сваёй групай. Супольна хутка закончылі мы пабудову зямлянкі. 26 лістапада пасяліліся мы ў ёй. Зямлянка разлічана была на сорак асоб, размешчана была на схіле ўзгорка, мела два добра замаскаваныя ўваходы. Адзін быў унізе, ля багна, другі на вяршыні ўзгорка. Зямлянку Смірнова, якая знаходзілася ў двух кіламетрах ад нашай, прызначылі мы на склад. Была яна цесная, душная, нявыгадная.

З увагі на канспірацыю ніхто з атрада Смірнова не ведаў нашых імён ні прозвішчаў. Нячаеў выступаў як Васіль Іванавіч Калеснікаў, Новікаў як Павел Дзмітравіч, я як Вальдэк Вронскі. Называлі мяне проста Валодзя. Расказалі мы партызанам, што на другім баку пушчы, у Гута-Міхалінскіх лясах ёсць наш камандзір Дзмітры Іванавіч.

— Што за сям'я ў вас, — смяяліся партызаны, — самыя Іваны Дзмітравічы і Дзмітры Іванавічы.

Найгоршае было за намі. Мелі мы кватэру, узброеную групу надзейных людзей, а гэтыя людзі мелі дзесяткі знаёмых, а тыя знаёмыя сваіх знаёмых. Так вязалася павуціннe, сягаючы ўсё далей і глыбей. Цяпер трэба было схапіць галоўную нітку гэтага павуціння ў свае рукі і там, дзе дасца, вязаць арганізацыйныя вузлы. Так і рабілі мы.

Камандзірам атрада застаўся надалей сержант Аляксей Іванавіч Смірноў. Было нас усіх пятнаццаць. На ўваходзіны наладзілі мы своеасаблівую ўрачыстасць. Адкрыў яе найвышэйшы чынам старшы лейтэнант Нячаеў.

— Таварышы, — сказаў ён, — увайшлі мы ў новы супольны партызанскі дом. Нямецкі фашызм прымусіў нас зарыцца пад зямлю. Не веру аднак, каб усе тыя, што жывуць на паверхні зямлі, адчувалі сябе лепш, чым мы. Яны там у сваіх уласных дамах бездапаможныя, нявольнікі, мы — людзі свабодныя. Свабодныя таму, што ў нас зброя, што мы можам бараніць не толькі свой гонар і жыццё, але можам бараніць іншых: палякаў, беларусаў, рускіх, яўрэяў, украінцаў, нягледзячы

# УСМЕШКА ДЫЯНЫ

Дзе ты ўседзіш дома, калі дзень выхадны, на двары пароша, а ў цябе такі няўрымслівы сябра, які яшчэ з серады пачынае дамаўляцца, куды пойдзем у нядзелю.

Ну, вядома, куды — за Ліпнягі, пад Юшчыху, а затым у Саўкаў лес. Ды і дзе яшчэ гэтулькі зайцоў?

І вось мы прачэсваем шырокую паплавіну са шматлікімі здранцвелымі ад марозу і завеянымі снегам канавамі, купкамі кустоў і астраўкамі невысокага балотнага бярэзніку, што расце ўперамежку з алешнікам.

Снегу не надта многа, але ўсё ж выціраю насоўкай узмакрэлы лоб.

Скідае шапку і сябра, абмахвае расчырванелы твар, бурчыць:

— Гэтулькі пратапталі — хоць бы слядок відаць, не пахадзілі зайчыкі.

— Можа ў лесе пашанцуе, — няўпэўнена кажу я. — Можа там Дыяна падрыхтавала нам паляўнічае шчасце?

Пастаяўшы на дарозе, мы рушылі да ўзлесся. Але ні ля невысокіх франціх-елачак, ні ля сарамлівых асінак, — нідзе не было відаць заечых «аўтографаў». Толькі дзе-нідзе бялюткі снегавы абрус парушылі маленькія рысачкі мышынага «почырку».

— Перакусім, — прапанаваў сябра, змахнуў снег са старога пня і ўсеўся.

— Давай.

Я патупаў, зняў з плечука стрэльбу і таксама ўсеўся побач, на карчы.

Распакавалі торбы.

Добра есці і пазіраць навокал. Паблізу цішыня. На ўзгорку велічна стаіць хваёвы бор, а левей, у нізінцы — цёмная сцяна ельніку. Дрэвы і кусты зацярушаны зіхатлівым снегам.

— Прыгожа тут, — зазначыў сябра, — як у казцы... Ці не сфатаграфавацца нам па чарзе?

Ён расшпіліў ватоўку і дастаў фотаапарат. Закамандаваў:

— Станавіся пад бярозкай, а я адсюль пстрыкну, — і ўзвёў затвор «Старта».

Я павесіў стрэльбу на шыю і, як належыць у такіх выпадках, прыняў малайцаваты выгляд.

— Ай! — раптам войкнуў фатограф і, скочыўшы са свайго ўзвышша, кінуўся да куста ядлоўца, дзе стаяла стрэльба. Фотакамера бездапаможна гайданулася на раменьчыку.

— Ты што?

— Заяц! — ашалела прахрыпеў ён.

— Дзе?

— У цябе за спіною!

Я азірнуўся з недаверам і раптам сапраўды ўбачыў, як вялізны шэры русак, зрабіўшы «свечку», ірвануў убок, па кустах. Ляснулі таропкія, непрыцэльныя стрэлы сябра. Ад разгубленасці я не мог паварушыцца, а ў роце адразу стала суха.

— Я думаў... — нарэшце здолеў я варухнуць языком.

— Думаў! Раней думаць трэба было, цяпер позна! — сябра шпурнуў у снег стрэльбу і схапіў дзвюма рукамі сваю галаву: — Ну і дурань я: у дваццаці кроках не змог нерухомага зайца ўзяць!.. Вось табе і падарунак Дыяны!

— Ну, калі гэта сапраўды быў падарунак багіні паляванняў, то яна — жанчына з гумарам.

— З гумарам! — фыркнуў мой таварыш. — А пралапушылі мы абодва.

— Супакойся. Уцёк касы і ліха з ім. Здымак на ўспамін застанецца.

— Нішто сабе ўспамін. Раскажаць, дык куры засмяюць.

Настрой быў сапсаваны. Мы прайшлі крыху па слядах зайца і затым павярнулі дахаты.

А здымак выйшаў. Горш за ўсё, што касы сапраўды відаць на ім. Так і атрымаліся разам: я пры поўнай паляўнічай амуніцыі, стаю і ўсміхаюся, а за маёй спіной, крыху воддаль, шарак з-за купіны выглядае.

**Даір Слаўковіч**





Сямейнае шчасце.

## ДА ПЫТАННЯ АБ МАЎКЛІВАСЦІ

Свіння неяк дапала да грады, дзе раслі Буракі, і пачала цягаць іх адзін за адным з карэннямі. І Буракі, бачачы, як Свіння расправіцца з іхнімі сваякамі, сталіся, прыціснуліся бліжэй да зямлі, замоўклі. «Хай жарэ, абы толькі яна мяне не чапала... — думаў кожны Бурачок. — Нажарэцца, ды пойдзе...»

Свіння такі пайшла з агароду. Але тады, калі на градзе не засталося ні аднаго Бурачка...

**Б. Сачанка**



— Доктар, дарма нервуецеся!

## СКРЫПАЧ

Мае як смык
Доўгі язык...

**Яська Апалонік**

## БОСЫ

— Гэй, сусед! — крычыць дзядуля. — Твой сабака ўчора вечарам сцягнуў мае чаравікі.

— Прабач, суседзе, але сёння раніцай сабака прыйшоў босы.

## МОГ

Матацыкліст налацеў на тоўстую жанчыну.

— Асёл! — абурацца яна. — Ты што, не мог мяне аб'ехаць?

— Мог, але баюся, што на гэта мне не хопіць бензіну.

## ВЫНІК

— Я даў аб'яву ў газеты, што нашаму магазіну неадкладна патрабуецца вартаўнік.

— Ну, і якія вынікі?

— Аб'яву надрукавалі ўчора вечарам, а гэтай ноччу абакралі магазін.

## ПАЦЕШЫЎ

— Не трэба турбавацца. Неўрастэнія вашай жонкі не вельмі небяспечная. Яна можа пражываць з ёю да ста гадоў.

— Доктар, а я?

## Я З ВАМІ

У час авацыі, якой гледачы ўзнагародзілі адну з новых п'ес Бернарда Шоу, у зале нечакана пачуўся свіст.

Шоу падняўся на сцэну. Звярнуўшыся да свістуна, ён сказаў:

— Шаноўны, я таксама невысокай думкі аб гэтым творы. Але што мы з вамі ўдваіх можам зрабіць супроць такой большасці?!

## ДЗІЎНЫ ЧАЛАВЕК

Хлопчык расказвае пра настаўніка:

— Дзіўны чалавек. Учора сказаў, што шэсць і чатыры будзе дзесяць, а сёння даводзіць, што сем і тры будзе таксама дзесяць.

## ХЛУСНЯ

Бацька гаворыць сыну:

— Калі я быў маленькі, я ніколі не хлусіў.

— Калі ж ты пачаў хлусіць, тата?



З армянскага

## ПАХАВАННЕ БАЦЬКІ МЕЛІК-ШАХНАЗАРА

Калі ў Мелік-Шахназара памёр бацька і на пахаванне сабралася шмат народу, ён загадаў Пулу-Пугі не выходзіць на вуліцу і не смяшыць народ. За гэта абяцаў яму сем мяхоў пшаніцы. Пулу-Пугі згадзіўся.

Калі ж жалобная працэсія ішла на могілкі, на вуліцы з'явіўся Пулу-Пугі з сям'ю сабакамі, у якіх на шыях былі званочкі, а на спінах — мяшкі.

— Ах ты, шэльма! Хіба я не загадаў табе сядзець дома?

— А я прыйшоў па пшаніцу, бо ведаю, што як толькі ты пахаваеш бацьку, адразу забудзеш пра абяцанне.

## ПАМЫЛКА

— Калі не памыляюся, вы ў мяне ўжо галіліся? — пытаецца цырульнік у кліента.

— Памыляецеся. Гэтыя шрамы на маім твары яшчэ з часоў апошняй вайны.

## ЯК

— Мілы, як бы нам лепш ушанаваць гадавіну шлюбу?

— Мінутай маўчання.

## ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

Па просьбе **Аліны Ляўчук** з вёскі Плюцічы, Бельскага павета, і **«Віктара»** з Бельшчыны змяшчаем песню

## ANNA-MARIA

Słowa: Krzysztof Dzikowski
Muzyka: Seweryn Krajewski

Smutne oczy, piękne oczy,
smutne usta bez uśmiechu
widzę co dzień ją z daleka,
stoi w oknie aż do zmierzchu
Anna Maria.

Tylko o niej ciągle myślę
i jednego tylko pragnę,
żeby chciała choć z daleka,
choć przez chwilę spojrzeć na mnie.

Anna Maria smutną ma twarz,
Anna Maria wciąż patrzy w dal.
Anna Maria smutną ma twarz,
Anna Maria wciąż patrzy w dal...
Anna Maria.

Jakże chciałbym ujrzeć kiedyś
swe odbicie w smutnych oczach,
jakże chciałbym móc uwierzyć
w to, że kiedyś mnie pokocha.

Anna Maria i td.

Lat minionych, dni minionych
żadne mody już nie cofną,
ten, na kogo ciągle czeka,
już nie przyjdzie pod jej okno.

Anna Maria i td.





## Воўк памог геолагам

На поўдні Урала нядаўна адкрыта трэцяе па велічыні ў СССР месцанараджэнне горнага ільну — азбесту. Яго памог адкрыць воўк. Прадзіраючыся праз горы, геолагі ўбачылі воўчае логава. Пры ўважлівым аглядзе яго заўважылі, што ўваход акайманаваны нейкай белай абляможкай. Багатае ўпрыгожанне ўваходу ў воўчы бярлог было цудоўным кіслотатрывалым азбестам. І геолагі нанеслі на карту краіны новы пункт месцанараджэння каштоўнай сыравіны.

## Спрытны фатограф

Адзін англійскі фатограф у вітрыне свайго атэлье змясціў такі прэйскурант цэн: «За адзін фунт стэрлінгаў Вы можаце атрымаць здымак, на якім выглядаеце так, як у жыцці. За два фунты — здымак, на якім вы выглядаеце так, як мяркуеце. Фота, на якім вы такія, як вам хацелася б быць, вы атрымаеце за тры фунты!»

## Ідэальны суддзя

Раман Гарда, аргенцінскі арбітр, дваццаць гадоў судзіў футбольныя сустрэчы. Ён карыстаўся любоўю футбалістаў, таму што ніколі нікога з тых, хто ў час гульні абражаў яго, не папрасіў пакінуць поле. Гарда не чуў абразы — ён быў... глухі.

На пытанне журналіста, што магло б палепшыць адносіны паміж футбалістамі і суддзямі, Гарда адказаў: «Са свайго вопыту раю бы суддзям мець зоркія вочы і заткнутыя вушы».



**У яго была звычайная прафесія — ён жыў з самакрытыкі.**